# ЧЭХАСЛАВАКІЯ — ПОЛЬШЧА

Дакладна год таму назад пабывала ў Польшчы партыйна - урадавая дэлегацыя Чэхаславацкай Сацыялістычнай Рэспублікі.

Сёння, калі з рэвізітам дружбы знаходзіцца ў Чэхаславакіі польская партыйна - урадавая дэлегацыя, трэба моцна адзначыць усе тыя сувязі, якія існуюць паміж нашымі краінамі. Неабвяргальным фактам з'яўляецца, што ў нашых дзвюх краінах перамог сацыялізм, які стварыў асновы для развіцця паміж намі дружбы і супрацоўніцтва. Маем тыя ж самыя ідэйныя і грамадскія мэты, маем таксама агульныя палітычныя мэты.

Польшча і Чэхаславакія апынуліся сёння перад наяўнасцю ўзрастаючага мілітарызму і рэваншу ў Заходняй Германіі. Гэта прымушае нашыя краіны рашуча патрабаваць, каб быў заключаны мірны дагавор з Германіяй, і каб было вырашана пытанне заходняга Берліна. Дамагаючыся сёння вырашэння германскага пытання не хочам нічога больш, як толькі ўнарміравання існуючых адносін і забеспячэння міру ў Еўропе.

З Чэхаславакіяй аб'ядноўвае нас не толькі дружба ў сферы ідэалагічных і палітычных адносін. Пачынаючы ад 1947 года штораз больш усебакова развіваюцца таксама нашыя гаспадарчыя адносіны. У нашым гандлёвым абмене Чэхаславакія займае пасля СССР і ГДР трэцяе месца. На аснове падпісанага ў лютым 1960 г. пяцігадовага дагавору атрымоўваем з Чэхаславакіі самыя цяжкія грузавыя машыны, аўтобусы, разнародныя ткацкія і горныя машыны, хімічныя вырабы. Польшча высылае ў Чэхаславакію электранічнае абсталяванне, рад машын і хімічных вырабаў.

Пашырэнню нашых адносін служыць таксама арганізаваны ў 1957 годзе Польска - чэхаславацкі камітэт гаспадарчага супрацоўніцтва. У рамках гэтага камітэта былі падпісаны пагадненні, якія прадбачваюць дапамогу Чэхаславакіі ў развіцці нашай сернай і горнай прамысловасці, а зараз таксама і меднай прамысловасці. Польшча атрымае ад Чэхаславакіі крэдыту 112,5 мільёнаў рублёў на разгортванне здабычы медзі. Увесь гэты доўг Польшча зверне Чэхаславакіі ў 1969—1978 гадах.

Гаспадарчае супрацоўніцтва з Польшчай прыносіць таксама карысць і для Чэхаславакіі. Варта, напрыклад, адзначыць, што 80% яе экспарту і імпарту праходзіць праз Гданск і Шчэцін.

Зараз пражскія размовы будуць служыць далейшаму развіццю гаспадарчых адносін. Асаблівага значэння для нашых краін набудзе акрэсленне прынцыпаў доўгатэрміновага супрацоўніцтва аж да 1980 года.

Абагульняючы, трэба падкрэсліць, што разгортванне ўсебаковых адносін паміж Польшчай і Чэхаславакіяй служыць інтарэсам нашых краін, служыць таксама ўмацаванню цэлай сістэмы сацыялістычных дзяржаў.

**УЛ. ЛАЗІНСКІ**

# ЦУД З ШАКАЛАМ

**ХВЕДАР АСІНІЧ**

**Нюрнберг. 30 верасня 1946 г. На ўвесь свет панесліся тэлеграмы: міжнародны ваенны трыбунал вынес прыгавор галоўным нямецкім ваенным злачынцам. Герынг, Рыбентроп, Кейтэль, Кальтэнбрунер, Розэнберг, Франк, Фрік, Заўкель, Іёдль, Зэйс, Борман асуджаны на смерць. Іншым турма.**

16 кастрычніка з Нюрнберга паляцела другая вестка: у нюрнбергскай турме адбылося пакаранне злачынцаў. Яны былі павешаны. Пазбеглі гэтай смерці толькі Герынг і Борман. Першы на дзве гадзіны перад пакараннем атруціўся, другі асуджаны быў завочна.

Так пятнаццаць год таму меч правасуддзя апусціўся на галовы падпальшчыкаў вайны. Гісторыя чалавецтва не ведала кары больш заслужанай і непазбежнай. Бо і злачынцы былі дагэтуль неспатыканыя.

Упершыню перад судом сталі злачынцы, якія апанавалі цэлую дзяржаву і зрабілі яе прыладай свайго страшэннага варварства. Гэта прызналі ўсе.

— Тэрор Торквемады* бляднее перад нацысцкай інквізіцыяй. Гэтыя дзеянні ўвойдуць у гісторыю як неабвяргальныя факты, па якіх будучае пакаленне будзе судзіць аб нашым дзесяцігоддзі, — гаварыў у сваёй прамове Роберт Джэксан, галоўны абвінаваўца ад ЗША. — Калі мы не патрапім знішчыць прычыны і прадухіліць паўтарэння падобнага варварства, — працягваў ён, — будзем мець падставу сказаць, што XX стагоддзе прывядзе да знішчэння цывілізацыі.

Такі дух панаваў пятнаццаць год таму на Нюрнбергскім працэсе.

Працэс прыцягнуў да сябе незвычайную ўвагу. Людзі добрай волі бачылі ў ім праяўленне пасляваеннага міжнароднага супрацоўніцтва ў барацьбе з фашызмам і агрэсіяй. Для ўсіх сумленных людзей было ясна, што нельга паблажліва адносіцца да ваенных злачынцаў.

З іншых пазіцый падыходзілі да Нюрнбергскага працэсу ворагі міру і дэмакратыі. Яны разумелі, што асуджэнне галоўных нямецкіх ваенных злачынцаў б'е па агрэсіі і агрэсарах, па падпальшчыках новай сусветнай вайны. Ёсць факты, якія сведчаць, што яшчэ ў ходзе вайны міжнародная рэакцыя рабіла розныя намаганні, каб не дапусціць да пакарання ваенных злачынцаў і пераўтварыць іх у сваіх саюзнікаў.

27 ліпеня 1943 г. на нарадзе персаналу амерыканскіх лагераў для ваеннапалонных, прадстаўнік ваеннага міністэрства ЗША палкоўнік Вінлок заявіў:

**«На нас ускладзена задача падрыхтаваць з немцаў кадры, якія маглі б быць выкарыстаны для ўмацавання прэстыжу Амерыкі і правядзення нашай палітыкі ў самой Германіі пасля акупацыі яе саюзнікамі... Тэрмін «фашыст», «нацы» трэба выкінуць з нашага лексікона. Памятайце, што для нас, амерыканцаў, для будучай Еўропы непапулярныя да гэтых пор нацыяналсацыялісты могуць быць і будуць больш карыснымі і больш зручнымі ад розных антыфашыстаў і наогул дэмакратаў...»**

Як насмешка над мільёнамі замучаных фашыстамі людзей гучыць прапанова, каб з Гітлерам паступілі так, «як гэта было з Напалеонам, які не быў падвергнуты суду, а быў толькі высланы». Такія прапановы мелі месца ў... «Камісіі Аб'яднаных Нацый па расследаванні ваенных злачынстваў». Такія ж меркаванні падтрымліваў і амерыканскі журнал «Форчун», які дамагаўся, каб пакаранне ваенных злачынцаў абмежаваць высылкай іх на нейкі востраў.

Намаганні рэакцыі сарваць працэс праваліліся. Суд адбыўся. Міжнародны Ваенны Трыбунал у Нюрнбергу выкрыў фашызм, а яго прыгавор з'яўляецца папярэджаннем усім падпальшчыкам вайны.

Аднак рэакцыя не злажыла зброі. На Нюрнбергскім працэсе судзілі толькі 19 ваенных злачынцаў. На волі знаходзіліся тысячы. Толькі частка апынулася ў турме. Ды і тыя хутка знайшлі надзейных абаронцаў. Вярхоўны камісар ЗША у Германіі Маклой неўзабаве вызваліў з турмы намесніка Герынга—фельдмаршала Мільха, генерала Рэйнеке і шмат іншых.

(Працяг на стар. 6)



На працэсе галоўных ваенных злачынцаў. У апошнім радзе першы злева ген. плк. Іёдль.




Світала, калі Мінай падышоў да размаляванага марозам акна. Ціха паскрэбаў па шыбе.

У акне з'явіўся заспаны твар пляменніцы Каці. На момант са здзіўлення ў яе пашырыліся вочы, і тут жа яна кінулася адчыняць дзверы.

— Дзядзенька! Як вы адважыліся?..

— Цішэй, — папярэдзіў Мінай, удыхаючы з дзяцінства знаёмы пах аўчыны і сырадою.

Каця мітусілася, паматала яму распрануць кажушок.

— Дык вы ж зусім аледзянелі! Зараз я чаю нарыхтую.

— Як дзеці? — з цяжкасцю варочаючы языком, спытаў партызан.

— Жывыя. У Суражы яны.

— А Ермачэнка? Ён жа ў вас здаецца жыве?

110

— Праз сені. Але ён цяпер у горадзе, а ў хаце жонка з дзіцём.

— Тады гавары цішэй... Дзе мама?

— На печы.

Мінай папрасіў Кацю схадзіць за Ісакам Осіпавым, а сам, палажыўшы на лаўку аўтамат і наган, палез на печку.

— Мам, га мам...

Маці спала. Сівыя валосы раскідаліся па падушцы. З першага позірку ўразіла яе худзізна: карычневыя рукі сталі сухімі, як запалкі, ды і ўсё цела — нібы дзяцінным.

«У чым толькі жыццё тлее?» — з горыччу падумаў Мінай і далікатна крануў яе за плечы:

— Мама!..

Старая адчыніла вочы і, не пазнаўшы сына, зашамкала ўваліўшымся ротам:

— Ты што? Няма ў мяне нічога. Ідзі прэч, прэч...

— Гэта я, мама. Я, Мінай...

Яна з цяжкасцю прыўзнялася на локцях.

— Сыночак! Сыночак мой...

Мінай апусціў галаву на яе калені, ды так і застыў. Абое маўчалі,

111

перапоўненыя нявыказанай радасцю сустрэчы.

— Як рабяты? — спытаў ён. — Ты бачыла іх?

— Бачыла. Міхаську цяжка дастаецца: ледзь зловяць дзе партызана, адразу ўнучка ў машыну і туды: мо' пазнае? Думаюць — малы ён, дурненькі, як убачыць цябе, дык уцешыцца. Колькі раз так вазілі.

Увашла Каця, а за ёй Ісак Осіпаў. Ускочыўшы на лаўку, ён расцалаваў Міная.

— Жывы? Здаровы? Вось і добра. Адсідзецца табе трэба пакуль што: дык па ўсіх кутках цябе шукаюць.

— Дзе ж адсідзецца? Мо', ты схаваеш?

— Абмазгуем гэтую справу! Тут табе не заставацца...

...Хата ў Осіпава была вялікая, з прасторнай кухняй, са сталовай і нават з асобнай спальняй. У ёй і схаваўся Мінай. Бяздзетныя гаспадары перанесліся спаць на печ.

Мінай амаль не пакідаў спальні. Сюды і ежу прыносіла яму жонка Осіпава, тут і сам Ісак расказваў аб навінах. А калі і прыходзіў хто-небудзь, Мінай скрозь тонкую перагародку чуў кожнае слова з кухні.

112

Так было і ў той дзень, калі ў хату ўвайшоў яшчэ адзін чалавек. Ад яго голасу Мінай затросся. Гэта быў Фаменкаў.

— Куры, — запрапанаваў Васіль, звяртаючыся да гаспадара, — у мяне гэтага дабра хапае. Першы сорт сігарэты! Учора ноччу зарабіў дзве пачкі: ніхто не хацеў расстрэльваць Гуськова, а я вывеў яго да плоту і — гатова!

Мінай схапіўся, узвёў курак нагана: ах ты, падла! Але тут жа стрымаўся: нельга, за адну гэтую гадзюку і Осіпавых, і шмат іншых расстраляюць. Кусаючы губы, апусціўся на бераг ложка і прыслухоўваўся.

А Васіль гаварыў:

— Мы Шмыраўскую банду ў корань перавялі. Набілі іх поўны лес. А двух жыўцом узялі: у іх паўаўтаматы на марозе сапсаваліся.

Мінай падумаў:

«Аўтаматычныя вінтоўкі былі толькі ў Гуськова і Галубава. Значыць і Паўла ўзялі».

(Працяг на стар. 7)

113

# Літаратурная старонка

Трыбуна літаратурнага аб'яднання — № 35

ВІКТАР ШВЕД

## ХІРАСІМЕ

Хірасіма, горад Хірасіма,
Я ў падарку верш табе прынёс.
Хоць не аглядаў цябе вачыма,
Мне вядомы твой трагічны лёс.

Свае раны лечыш ты дагэтуль,
Хоць даўно пагас вайны пажар.
Асцярогай быць павінен свету
Незлічоны лік тваіх ахвяр.

Масава яшчэ ўміраюць людзі
Ад хваробы атамнай штогод.
Хірасіма! Гэтага не будзе,
Каб ізноў ад войн цярпеў народ!

Ва ўсім свеце людзі добрай волі —
Міру непарушнага залог —
Сочаць пільна, каб нідзе, ніколі
Лёс твой паўтарыцца больш не мог.

---

*АЛЕСЬ БАРСКІ*

Сляза слязе не роўная:
Маленькая — праўдзівая,
Вялікая — фальшывая...
Сляза слязе не роўная:
Крычачая — не шчырая,
Балючая — маўклівая...
Сляза слязе не роўная,
Маленькая праўдзівая...

---

ЮРКА ЗУБРЫЦКІ

## ЗЯМЛЯ

Напружыла ты крываносныя артэрыі
І анямела ад рассаджваючай бокі колкі.
Цягнеш з неба тысячы тон матэрыі
І губляеш па дарозе толькі ж.

І трасешся цэлым целам у гневе ты.
Не зямля ты, а хутчэй — вампір.
Вось, застрагшы ў зорках, прыцяжэння невады
У горла табе сыплюць зорчын пыл.

Наелася касмічнага пылу — ледзь дыхаеш,
Куды тут табе каруселіць бясконца.
Заплыўшымі тлушчам вачыма на месяц лыпаеш,
Выставіўшы тоўсты зад да сонца.

Захварэла, старая, касмічнай ліхаманкаю.
У вачах тваіх не зямны пыл траліцца.
Я б памог табе, павер, маланкаю,
Мне толькі пылу гэтага хоць у тры пальцы.

У пылінках тваіх сажаю усмажаных
Шукаю прах загінуўшых галактык.
Відаць і я хваробаю касмічнаю заражаны,
Відаць чакаюць нас аднолькавы палаты.

---

*ЯША БУРШ*

* ✲ *

хацеў бы усніцца
у сны мацейкі
тагубець
у час змяркання
тады б запахнуў
на ўвесь вечар
уміляючы хвіліны
тым
якіх байкі Марфэуша
не могуць укалыхаць

я бы ім папахнуў
у бяссонніцы.

Нельга сказаць, каб Віктар, якога мы між сабой Паляўнічым звалі, выглядаў прыемна. Не палічы Божа за грэх! — на яго адзін нос без хвалявання нават мы, мужыкі, глядзець не маглі. Пачатак носа прападаў між густых натапыраных броваў, а ўніз ён падаўжаўся і круглеў да таго, што кожнаму так і свярбелі рукі, каб яго падперці. На прадаўгаватай галаве Віктара, закончанай бліскучым выпуклым чэрапам — расло, паводле слоў пячніка Кандрата, трынаццаць ільняных валасін.

У бяспечнай цені натапыраных броваў драмалі вадзяністага колеру, пасавінаму круглыя, вочы, а ўсяму твару крыху павагі і нават нейкай суровасці дадавалі вялізныя, пышныя вусы яго!

Наконт іх, трэба сказаць, не меў канкурэнта стары Віктар не толькі ў нашай вёсцы. Я б хацеў пабачыць храбраца, у якога вусы чуць не шырэй плеч! З Віктаравых плеч жа пачатак бралі дзве доўгія, касцістыя рукі (пападзі я ў іх пасля гэтага, што Вам праўлю), а тулава моцна сядзела на слаўных нагах.

І як жа ён умеў хадзіць імі ў бывалыя часы! То ціха і амаль плаўна няслі яны доўгае цела старога лаўкача, то раптоўна пускаліся ў бег, пры якім аб сённяшніх рэкордах і гаварыць было б сорамна!

Ногі паляўнічага — — хлеб яго, калі таварыш ім вялікі, чуткі нос, арлінае вока, пэўная рука і ўсёчуючае вуха! Тота ж, вушы Віктара — асобны раздзел. Доўгія, зарослыя сівымі валаскамі, быццам мохам, сярод сотняў розных галасоў лавілі яны патрэбны, і тады, здавалася, раслі ў вачах і яшчэ больш пашыраліся.

Быў Віктар сапраўдным паляўнічым, якіх цяпер не знойдзем нават з вопраткі. Тонкі ўвесь, як асінае джала — перацягнуты ў поясе шырокім рамянём, у лапцях, адвечна зрэбных штанах і такой жа кашулі паверх іх, — яшчэ не насоўваў на думку свайго занятку. Але світка! Сівая, з тоўстага сукна Мікалаеўскага шыняля, світка яго, махнатая, кропля ў кроплю, як у дзядзькі Фёдара шапка, і торба з пазелянелай ад старасці скуры — вось што гаварыла аб прафесіі Віктара. Нават тады, калі пры ім Вы не бачылі б стрэльбы! Апошняя з доўгім, крывым нажом, ручка якога прадстаўляла зрэзаны алені рог — завяршала ўсю постаць Віктара. Так... Віктар быў чалавек цікавы. Жыў у трэцяй ад дзядзькі Фёдара хаце і, праўду кажучы, да восені мінулага года лічыўся другім пасля Фёдара аўтарытэтным жыхаром нашай вёскі.




Повадам гэтага, здаецца, была яго негаварлівасць. Віктар патрапіў у святочны дзень на вуліцы прастаяць ад ранку да вечара, слова з сябе не выціснуўшы.

Ды наогул Віктар быў чалавекам замкнутым, можна сказаць, нават грозным. Вяртлявы Кандрат паспрабаваў было раз пры людзях на смех старога падняць, але не давядзі Божа вам гэта паўтарыць. Паляўнічы хвілін некалькі маўчаў пасля гэтага, а калі зірнуў на пячніка, ногі таго, здавалася, самі, без ведама гаспадара, адняслі яго цела на другі бок вуліцы!

Пабойваліся мужыкі ў вочы з Віктара пасмяяцца. Ажно восенню мінулага года пашла па вёсцы гутарка, быццам нямецкай пароды барана маляр Лукіч здуру завёў. Спачатку людзі дзівавапіся барану: вялікі быў, быццам добрае жараб'я, кудлаты, а баран дзіваваўся людзям: хадзілі за ім, галовамі ківалі, рукамі махалі... Потым барана сталі баяцца. Гэта сталася адначасова: сталі баяцца барана і ўжо ўдоваль, адкрыта насміхацца над Віктарам. Разумееце ўжо ў чым справа? — Так, так — баран упершыню паспрабаваў сваіх сіл у нашай вёсцы на Віктары! Але па чарзе.

* ✲ *

...Прыгожы, па-асенняму залаты дзень хіліўся к вечару, калі Віктар, падвесіўшы паверх світкі сваёй доўгую стрэльбу, мінуў кузню каваля Хухаля.

Народ наш вясковы быў прызвычаены да гэтакіх вячэрніх паходаў старога Паляўнічага, і таму Хухаль, седзячы на тоўстай калодцы ля адчыненых дзвярэй кузні, з глыбокай дрымоты прыадкрыў толькі адно вока, правёў ім Віктара да выгану і спакойна закрыў яго ізноў.

Трэба вам ведаць, што кузня стаіць у самым канцы вёскі, як гэта з давен-даўна вядзецца, а зараз жа за ёю пачынаецца выган, які ў гэтую пару больш змахвае на Кандратавую лысіну, чымсьці на сапраўдную пашу. Усё ж такі з ранку да вечара бадзяюцца па ім бязладныя кучкі кароў, гусей і авечак.

...Толькі паспеў каваль прыкрыць сваё вока назад, як пачуўся з-за кузні топат, кароткі маланкавы трэск і глухі стогн. Каваль зяўнуў і ізноў прыадкрыў толькі што задрамаўшае вока. Калі топат, потым трэск і новы стогн паўтарыліся, угору папаўзла другая вейка.

Цяпер вочы Хухаля, яшчэ крыху сонныя, але ўжо гатовыя глядзець, павольна спыніліся на вугле кузні. Цяжка ўздыхнуўшы і зяваючы, ён неахвотна высадзіў галаву з-за вугла.

І каваль заліўся раскацістым рогатам, што здавалася, лес за ракою ад яго заварушыўся: з разгону нахіліўшы цяжкі лоб да самае зямлі, нямецкі пародзісты баран ляцеў на Віктараў зад! Зад — таму, што Паляўнічы, стоячы ракам, стараўся падняцца з кален і адначасова рукою шукаў ззаду прыклада сваёй стрэльбы, а гэта стварала барану яшчэ дадатковую атракцыю.

З рукамі на жываце, выляцеў з-за кузні каваль Хухаль і пакаціўся па траве: «...ннее магууу, — мычаў і душыўся ён, — людочкі, вы мае, а яшчэ паляўнічы, га-га-тага...,» і рэха кацілася да лесу, адбіваючыся ад яго, як ад сцяны, каб яшчэ з большай сілай вяртацца назад у вёску.

Не прайшло і пяці хвілін, як ля плоту крайняй ад сяла Чухраёвай хаты падвесілася дзесяць мужыкоў і ў два разы больш баб.

Так пачалася слаўная дуэль. Пачалася, бо ні заўзяты баран, якому стары Паляўнічы надта выгадным аб'ектам нападу здаваўся, ні той апошні не думалі яе кончыць без якогасьці рашучага акорда.

Я забыўся Вам выясніць, што з правага боку кузні Хухаля, калі Вы станеце ў напрамку лесу, ля выгана — метраў пяцьдзесят убок — працякае рэчка. Дык вось, да самага пясчанага яе берага баран, бясспрэчна, панаваў над сітуацыяй.

Слязлівыя бабы пачалі было літавацца над Паляўнічым, але ахвотнікаў адагнаць барана, чават сярод адважнейшых мужыкоў, не знаходзілася.

(Працяг на стар. 4.)

## ЛІТАРАТУРНЫ КОНКУРС

ГП БГКТ і Праўленне Літаб'яднання аб'яўляюць конкурс на творчасць для дзяцей (вершы, апавяданні, сцэнічныя творы).

Найлепшыя творы будуць узнагароджаны грашовай прэміяй, надрукаваны ў «Ніве» і выдадзены ў асобным зборніку.

**Узнагароды:**

**I — 1000 зл.**
**II — 800 зл.**
**III — 3 па 400 зл.**

У конкурсе могуць прымаць удзел як члены Літаб'яднання так і іншыя асобы, зацікаўлены дзіцячай тэматыкай.

**Творы трэба прысылаць на адрас «Нівы» з прыпіскай «Літаратурны конкурс».**

**Тэрмін прысылання твораў да 31 снежня 1961 г.**

 

# ПЕРАД УСІМ — ДАБРО ХВОРЫХ

Урэшце — пасля бяссонных начэй, пасля суровых студэнцкіх перажыванняў — урэшце гэты момант — адзіны і непаўтарымы ў жыцці, як сам факт нараджэння...

У дэканаце ўрачысты настрой. Галасы ўсхвалявана паўтараюць словы «доктарскай прысягі»:

«Прымаючы з пашанай і глыбокай удзячнасцю прысвоенае мне званне доктара і разумеючы цэлы цяжар звязаных з ім абавязкаў, абяцаю і прысягаю, што на працягу ўсяго жыцця буду выконваць усе правам наложаныя абавязкі, сцерагчы гонару доктарскай прафесіі і нічым яго не запляміць, што паводле найлепшых ведаў буду дапамагаць усім хворым, якія звернуцца да мяне з дапамогай, маючы на ўвазе выключна іх здароўе, што не злоўжыву іхняга даверу і буду трымаць у таямніцы ўсё тое, аб чым даведаюся ў час выконвання доктарскіх абавязкаў...»

Гэтым разам было іх толькі семнаццаць чалавек, семнаццаць ужо паўнапраўных доктараў. Але ад пачатку існавання Акадэміі Медычнай у Беластоку словы прысягі паўтарала ўжо 630 асоб, а ў бягучым годзе, пачынаючы ад студзеня, доктарскія дыпломы Беластоцкай Акадэміі Медычнай атрымала каля ста чалавек.

Шмат выпускнікоў прышло ў Акадэмію з вёсак Беласточчыны. Яны пераважна і працуюць на Беласточчыне. Вось Жэня Міранкевіч (па мужу — Пахвіцэвіч) нарадзілася ў вёсцы Дубна (Бельскага павета), сярэднюю адукацыю атрымала ў Бельскім беларускім ліцэі. Зараз працуе ў Гайнаўскай бальніцы. Бацькі Олі Каладзеюк жывуць у вёсцы Рагаўка каля Сямяціч. Агульнаадукацыйны ліцэй Оля закончыла ў Сямяцічах. Паслядыпломную практыку будзе праводзіць у Беластоку.

Маладым лекарам жадаем поспехаў у іх працы і шчасця ў асабістым жыцці. Хай словы прысягі, якую далі яны атрымоўваючы доктарскія дыпломы, будуць адзінымі ўказальнікамі ў іхняй цяжкай працы. (вр)



Група маладых лекараў, якія нядаўна атрымалі лекарскія дыпломы Беластоцкай Адакэміі Медычнай.
Фота: А. Здрадоўскі

# ЗА ДОЛАРЫ

НАШЫ ІНТЭРВ'Ю

У верасні бягучага года было адкрыта ў Беластоку аддзяленне Банка Польскай Касы Апекі.

— Асноўным заданнем нашага прадпрыемства з'яўляецца дапамога ў прыватным таварным абароце паміж грамадзянамі Польшчы, а іх сваякамі ці знаёмымі, пражываючымі за мяжой, — гаворыць дырэктар Аддзела.

**— Якім чынам?**

— Калі хто сам высылае пасылку поштай, справа выглядае так: той, хто высылае пасылку — там за мяжой — купляе тавар, потым мусіць яго адпаведна запакаваць і заплаціць кошт перасылкі. Тут, у краіне, адрасат не атрымае пасылку, пакуль не заплаціць пошліны (цло). Як бачыце, пры такім абароце, так сказаць, уласныя кошты перасылкі непамерна ўзрастаюць, перавышаючы неаднойчы вартасць самай перасылкі.

**— А ў Вас?**

— Каб ясней усё перадаць, дапусцім, што вы жывеце ў... Ну, дзе, у якой краіне хацелі б вы жыць?

**— Тут дзе зараз.**

— Ацэньваю ваш патрыятызм, але для прыкладу?

**— Напрыклад, у Швейцарыі — захапляюся горнымі краявідамі.**

— Хай будзе Швейцарыя. Захацелі вось выслаць вы пасылку свайму брату, які жыве ў Польшчы. Паведамляеце аб тым — пісьмова або асабіста — нашае паўнамоцнае прадстаўніцтва, якое менавіта знаходзіцца ў Швейцарыі. Яно бясплатна высылае вам спісак і цэннік тавараў. Выбіраеце адпаведныя прадметы для Вашай пасылкі, перасылаеце грошы на конта гэтага прадстаўніцтва і паведамляеце яго аб тым, якія тавары жадалі б вы выслаць свайму брату. І на гэтым канец вашым клопатам. Пасля нейкага часу брат ваш у Польшчы атрымоўвае паведамленне, што на яго імя прыйшла пасылка. Брат ваш прыязджае ў аддзяленне нашага Банка ПКА, напрыклад, у Беласток, і тут атрымоўвае адпаведныя тым таварам, якія назначаныя ў пасылцы. Можа, аднак, выбраць сабе і іншыя матэрыялы, якія знаходзяцца ў даны момант у магазіне аддзялення. Зразумела, грашовая вартасць іх мусіць раўняцца вартасці назначаных тавараў. Вы таксама не мусіце акрэсліваць, якія матэрыялы ваш брат павінен атрымаць. Можаце толькі падаць грашовую вартасць пасылкі, а брат ваш тут, у Польшчы, сам на акрэсленую суму грошай выбярэ патрэбныя сабе тавары.

**— Якія матэрыялы за Вашым пасрэдніцтвам можна купіць?**

— Амаль усе — ад іголкі, да каровы.

**— А напрыклад, патрэбны майму брату цэмент. Магу я заплаціць за яго ў Швейцарыі, каб брат атрымаў у Польшчы?**

— Калі ласка. Тона цэменту каштуе 9 долараў без даставы дахаты, а з даставай на сам панадворак — каштуе 12 долараў. Зрэшты, не толькі цэмент, а ўсе будаўляныя матэрыялы: цэглу, чарапіцу, папу, этэрніт, бляху жалезную і цынкавую. Таксама каровы, свінні, вазы, буйнейшыя сельскагаспадарчыя машыны. Гэта ўсё можна атрымаць у нашай «краме».

**— У якіх краінах маеце Вы сваё прадстаўніцтва?**

— У Францыі, Швейцарыі, аб якой мы ўжо ўспаміналі, у Даніі, Галандыі, Швецыі, Англіі, Аўстраліі, Ізраілі, Злучаных Штатах Паўночнай Амерыкі і ў Паўднёвай Амерыцы.

**— Інакш кажучы, практычна амаль у кожным раёне свету можна карыстаць з Вашых паслуг.**

— Несумненна так.

**— Ці апрача пасылак, займаецеся пасрэдніцтвам і ў іншых справах?**

— Так. За нашым пасрэдніцтвам можна атрымаць спадчыну, напрыклад, са Злучаных Штатаў, або пенсію прызнаную за мяжой асобам, якія зараз жывуць у Польшчы.

**— Ці не можна купляць тавараў у Вашых «крамах» за польскія грошы?**

— Не, за залатоўкі нічога не прадаем. Толькі за долары, або за валюту іншых заходніх краін. Пры тым хачу станоўча падкрэсліць, што ніхто з нашага персаналу не цікавіцца і не мае права цікавіцца адкуль наш наведвальнік узяў долары ці іншую замежную валюту. У нашым таварным абароце, напрыклад, за адзін долар выпадае больш-менш 72 злотых. Калі хто да нас прыносіць долары, або іншую заходнюю валюту, можа атрымаць ад нас або тавары, або грошы, як сам хоча.

**— Дзякую за тлумачэнні.**

— Калі ласка, перадайце сваім чытачам, што больш падрабязныя інфармацыі можна атрымаць у Беластоцкім Аддзяленні Банка Польскай Касы Апекі ў Беластоку, вуліца Сянкевіча 18.

Гутарыў: **В. РУДЧЫК**

# ГАЙНАЎСКІЯ ІНВЕСТЫЦЫІ

**(Працяг са стар. 1)**

ная Рада Прафсаюзаў у Варшаве, якая абяцала ўфундаваць Гайнаўцы помнік 1000-годдзя — пабудову ў бягучай пяцігодцы школы — дрэваапрацоўчага тэхнікума. Школа 1000-годдзя будзе будавацца ў частцы горада пад назвай Юдзянка, дзе адчуваецца зараз сур'ёзны недахоп большага школьнага будынка.

Дзеля паправы ўмоў аховы здароўя для павета ў гадах 1963—1964 у Гайнаўцы пабудуецца раённую лекарскую прыёмную, кошт пабудовы якой складзе каля 7 мільёнаў зл. А да павятовай бальніцы дабудуецца флігель, у якім знаходзіцца будзе аперацыйнае аддзяленне хірургіі. Кошт складзе каля 1,5 мільёна зл.

Не забыліся таксама палепшыць асвятленне горада, чаго ўпарта патрабуюць яго жыхары. Гэта (адна з найменшых інвестыцый — 100 тыс. зл.) будзе рэалізавана ад пачатку будучага года, бо Ваяводскае бюро праектаў абяцала выканаць дакументацыю на канец снежня 1961 года. А каб Ваяводскае бюро праектаў у Беластоку выканала раней дакументацыю (чаго яму разам з жыхарамі Гайнаўкі жадаем), тады і светлавое абсталяванне ў горадзе можна было б таксама прыспяшыць.

✻

Пабудова мэблевага завода ў Гайнаўцы, камбіната пераапрацоўкі малака, наладжанне шматлікіх пунктаў большай і дробнай паслугі ў горадзе абяспечыць дарастаючаму пакаленню працу ў горадзе. А гэта ж накрэслена ў праграме Фронта адзінства народа, на які мы вясною аддалі свае галасы.

**М. Кураш.**

# ЧЫ ВІКТАР

ся ноччу на сяле шукаць. Але ж як вёска вёскаю, ніхто яе ўрэшце не страляў!?

І таму, калі дзён чатыры пасля тэтага Віктар аглушыў ноччу, на тым жа агародзе хітрага Чухрэя — шмат каму стала не па сабе.

«Не, хлопцы, — сказаў мужчынам раніцою другога дня Чухрэй, — гэтак жа быць не можа! Ён жа нас усіх, як жывёліну, перастраляе! Ды хіба ж можна гародамі добраму чалавеку хоць бы і ноччу прайсці?»

Мужыкі, вядома, адвялі вочы ўбок. — За гародамі, акрамя невялікай хаткі ўдавы Антолі, ноччу шукаць не было чаго..

Факт фактам (у гэтым былі здаецца зацікаўлены акрамя Віктара і іншыя асобы) — Віктара прымусілі закінуць гэтыя недарэчныя, начныя засады.

Не закінуў толькі зусім палявання на дзіка стары Віктар, як гэта ўсе думалі! Аб яго новай выхадцы ўсе пераканаліся неўзабаве.

✻

Была шостая гадзіна раніцы на Спаса. Мужыкі, як гэта заўсёды ў свята вядзецца, з самага ранку падмяталі вуліцы, заграбалі панадворкі.

Чаго Цэкаўку занясло на агароды — цяжка цяпер сказаць. З агарода ўсе пачулі яго страшэнны крык аж на вуліцы.

«Хло-о-пцы-ы-ы! — крычаў ён колькі сіл. — Хло-о-о-пцы-ы-ы... сюды-ы-ы... дзік у яме!»

Хто знае Цэкаўку, той нават, калі б ён і дзіка не памянуў, што сіл у нагах гнаўся б пабачыць! Бо не многа было спраў на гэтым свеце, якія патрапілі б з горла лянівага Цэкаўкі вырваць гэтакі крык...

Першы прыбег на агарод Кандрат. Вушы яго так і шарылі ў пошуках новых падзей. Хвілін некалькі пасля яго на месцы быў ужо каваль Хухаль, потым Саўка, Сідар, дзядзька Фёдар, Чухрэй, Марка і яшчэ хіба чалавек пяць нашых мужыкоў. Стоячы ў разоры, Цэкаўка паказваў на загон. Трэба было добра прыглядзецца, каб пазнаць, што гэты бульбоўнік з дзіркай у сярэдзіне, — толькі зручная, майстэрская маскіроўка шырокай ямы. Яма ж мусіла быць даволі глыбокай, таму што сапенне, якое даносілася з яе глыбіні, было неяк невыразным, прыглушаным...

Раптам з'явіўся з новаю стрэльбаю Віктар. Дзесяць пар рук згодна хапілі бульбоўнік і ўслужліва сцягнулі яго з ямы. Віктар ступіў крок наперад, ускінуў стрэльбу і прыцэліўся...

Не дай Божа на старасць другі раз гэтакі вобраз бачыць! Не дай. У двухмятровай яме, у самым кутку яе, раскудлачаны, сядзеў наш радзімы айцец Іярэмій! Нічога не разумеючымі вачыма вадзіў, бедны, за дулам Віктаравай стрэльбы, якая (мабыць, таксама з уражання) раптоўна пачала скакаць знізу ўверх.

Мужыкі ахнулі...

Стары Марка набожна перахрысціўся. Каваль Хухаль з трэскам сцягнуў на сваё месца страшэнна расцягнуты рот.

«А-яй, вось табе магніт, хлопцы», — здзіўлена і з нейкай пашанай сказаў дзядзька Фёдар і пакруціў галавой...

«Што тут магніт, тут Антоля», — уголас падумаў здагадлівы пячнік Кандрат і раптоўна зарагатаў...

Бацюшку, вядома, выцягнулі мы з ямы спраўна. Горш было з яго самаадчуваннем. Так да сябе і недайшоў, бедненькі... Помніцца мне, гэта быў адзіны выпадак, калі ў царкве нашай Спаса не адпраўлялі.

А што ж яно за свята такое, без абедні?

...Не шанцавала Віктару, не шанцавала...

**С. ЗАСТАВІН**



 




# ПАМЫЛКА

Гісторыя гэта здарылася зусім нядаўна, калі людзі выкупілі соль, газу ды шмаравідла.

Зразумела, што і нашая вёска не засталася ў канцы. Кабеткі вымелі падчыстую краму гэсс, у якой застаўся толькі прадаўшчык за прылаўкам.

Прадаўшчык ад шчасця пазяхае. Жыць яму — не ўміраць. Зарплату поўнасцю яму выплочваюць, а працы толькі, што ў носе пальцам калупаць.

А час плыве. Тут нечакана ў гэзс тавары прывезлі, а між імі скуру. Мацаюць людзі гэтую скуру. Скура — крупон, цвёрдая, так сказаць, сумленна выраблена. У такіх падэшвах на край свету дойдзеш ды назад вернешся. Ногі саб'еш, а падэшва будзе цэлая. Круцяцца людзі каля тэтай скуры, як кот каля каўбасы, ды купляць няма за што. Грошы ж яны на соль ды цукар выдалі.

Цётка Агата пакруціла скуру ў руках, паўздыхала ды кажа прадаўцу:

— Купі, галубок, у мяне паўметра цукру, танней уступлю, а ў замен вазьму пару падэшваў.

Прадавец пакруціў носам ды кажа:

— Ад прыватных асоб тавараў не купляем, а цукар, калі ласка, стаіць на полках ды зусім не карыстаецца поспехам у продажу. Зацукраваліся людзі на некалькі год. Цётка Агата ўздыхнула ды адышла прапанаваць суседцы за бязцэн ячменную кашу.

— Дзе ж там! — узмахнула рукамі суседка. — Я сама шукаю, каму б трохі газы прадаць. Уся кладоўка прасмярдзела газай, а ў хаце ж дзеці, да граху недалёка. Заўтра сусед каваль імянніннікам. Думаю яму ў падарунак паднесці бачок газы.

— Вось ліха, не магу прыпомніць, хто першы паніку пусціў. Плюнуць бы такому ў рыла, каб людзей у расходы не ўводзіў, — прагаварыла Агата.

— У чаргу да крамы мяне ты пацягнула, а хто цябе папутаў, не ведаю, — сказала суседка.

Цётку Агату быццам перцам абсыпалі. Яна падскочыла да суседкі і завішчала:

— Я цябе пацягнула? Каб цябе на могілкі выцягнулі! А хто тэта мне грошы пазычаў, калі рыс раскупоўвалі?!

— Чаго ж ты крычыш, дурная, — пярэчыла суседка. — А хто ж мне мяшок солі памагаў на гару закідаць, як не ты?

Тут яны адначасова пачалі крычаць да сябе так, што сам д'ябал не разабраўся б.

Мілыя грамадзяне, памыліліся людзі, а сёння ім нявесела. Крыўдна глядзець на непатрэбныя запасы, калі ў краме ляжаць патрэбныя тавары. Як бачыце, некаторыя людзі старэюць, але зусім не разумнеюць.

*Дзэдзіка Лявонь*

## У СТАЛОВАЙ

Янка і Мікалай заказалі ў сталовай па кавалку мяса. Афіцыянтка прынесла ім два кавалкі, адзін меншы, другі большы. Янка адразу ўзяў большы кавалак. Мікалай пакрыўдзіўся:

— Як бярэш першы, дык бяры меншы кавалак, — кажа ён.

— А ты які кавалак браў бы? — спытаў Янка.

— Ну вядома, меншы, — адказаў Мікалай.

— Дык я табе меншы і пакінуў.

**Вася Цімафеюк**
Сапава



Паводле ўзору.

## АДКАЗАЎ

— Чаму паляўнічы, калі страляе, закрывае адно вока?

— Таму, што калі ён закрые і другое, то нічога не ўбачыць.

**Юрка Скепка**
Альхоўка

## СЁННЯ Ў ВЁСЦЫ

— Выйдзі, — кажа жонка да мужа, — пабач якое сягоння надвор'е!

— Надвор'е? Навошта выходзіць. Зараз Варшава скажа якое надвор'е, адказаў ён і ўключыў радыёпрыёмнік.

**Янка Краснадэмбскі**
Паўлы




## ПАСПЕЎ

Адзін агароднік паліваў капусту. Калі скончыў, пачаў ліць дождж. Прыбегшы дахаты, агароднік узрадавана кажа:

— Добра, што паспеў паліць усю, а то бач які дождж узняўся.

**Віктар Сцепанюк**
Давідавічы

## СЛЯПЫ

Жабрак сядзеў на камені і лічыў грошы. Падыходзіць да яго чалавек і кажа:

— Я бачыў вас у мінулым годзе, і вы былі сляпыя.

— Якісьці чорт даў мне фальшывыя грошы, таму я і расплюшчыў вочы, — адказаў жабрак.

**Уладзімір Красоўскі**
Пянькі

## ЖОНКА ДЫРЭКТАРА ШКОЛЫ



— А мой дык арганізаваў працоўнае навучанне школьнікаў на сваім агародзе.



— Мадэль не новая, затое рэсоры дасканалыя...



— Так, мама. Вася будзе вельмі задаволены, калі прыдзеце ў госці на ўвесь дзень.

# У МУЖЫЛА

(Гумарэска)

**Іду я аднойчы з жонкай, а нам насустрач наша суседка. Немаладая ўжо жанчына, якая паспела змяніць трох мужоў і пад старасць засталася без мужа і без дзяцей. Было нам вядома з яе біяграфіі яшчэ і тое, што яна ў апошні час нарэшце пачала турбавацца, як, маўляў, дажываць век адной, і ўсё бегала па дзіцячых дамах, хацела ўзяць на выхаванне хлопчыка або дзяўчынку. І раптам бачым: побач з ёю ідзе малады хлопец і асцярожна падтрымлівае яе пад руку.**

**— Няўжо наша Мар'я Мікалаеўна ўсынавіла гэтага маладога чалавека? — пытаюся я ў жонкі.**

**— Не ўсынавіла, а ўмужыла, — адказвае жонка.**

**— Як гэта ўмужыла? — перапытваю. — Незразумела.**

**— А так. Узяла і выйшла за яго замуж.**

**— Ну, добра, — не без абурэння заўважыў я. — Яна то, да прыкладу, магла выйсці за яго замуж. Ён? Чым жа яго прывабіла?**

**— Багата чым. Добрай кватэрай, дачай, «Волгай», і ашчаднай кніжкай.**

**«Вось праўду кажуць, — падумаў я, — чорт сем пар лапцей стаптаў, пакуль такую пару сабраў».**

**В. ЗУБ**

**Генадзь КЛЯЎКО**

# САРОКІ СТУДНЮ АБЯРНУЛІ

Аднойчы неяк дзве сарокі
Трашчалі, крылы ўзяўшы ўбокі:
— Вы чулі?..
Голуб прыляцеў
У сваты да Сініцы.
Сямёра кінуў ён дзяцей,
А з імі — маладзіцу!..

— Вы чулі?..
Кажуць, што Ласю
Скруціла гэтак рогі,
Бо анікблі ён дасюль
Не памаліўся богу...

— Вы чулі?..
Зайцу-русаку,
Каб зняць у лесе хатку,
Прыйшлося сунуць Вепруку
Пяцьсот рублёў задатку...

— Вы чулі?..
Воўк пражыў сем дзён
Капусткаю заечай,
Бо то ж даўно баіцца ён,
Нібы агню, авечак...

Прабачце, вы не чулі?
Сарокі студню абярнулі